[3] Гл.: Зеленин И. Е. Кульминация «Большого террора» в деревне. Зигзаги аграрной политики (1937–1938) // Отечественная история. 2004. № 1. С. 175–180; Ён жа. Революция сверху. Завершение и трагические последствия // Вопросы истории. 1994. № 10. С. 28–42; Ён жа. Политотделы МТС – продолжение политики чрезвычайщины (1933–1934 гг.) // Отечественная история. 1992. № 6; Ён жа. Был ли «колхозный неонэп» // Отечественная история. 1994. № 2; Ён жа. Коллективизация и единоличник (1933 – первая половина 1935 г.) // Отечественная история. 1993. № 3.

[4] Гл.: Богденко М. Л., Зеленин И. Е. Основные проблемы истории коллективизации сельского хозяйства в современной советской исторической литературе. М., 1961.

[5] Гл.: Михнюк В. Н. Крестьянство Белоруссии на пути к социализму: историографический очерк. Минск, 1979.

[6] Зеленин И. Е. Сталинская «революция сверху» после «великого перелома». 1930–1939. Политика, осуществление, результаты (текст). М., 2006.

[7] Гл.: Россия в ХХ веке. Судьбы исторической науки» / под общ. ред. чл.-кор. РАН А. Н. Сахарова. М., 1996: Современная российская историография / В. И. Меньковский и др.; под ред. В. И. Меньковского: в 2 ч. Минск, 2009; Кананерова Е. Н. К вопросу об основных этапах и направлениях развития советской аграрной историографии // Вестн. Астраханского техн. ун-та. 2009. № 1. С. 127–129.

[8] Бордюгов Г. А., Козлов В. А. История и конъюнктура: субъективные заметки об истории советского общества. М., 1992. С. 3–4.

[9] Гл.: Данилов В. П. Как это было // Правда. 1988. 26 сент.

[10] Гл.: Документы свидетельствуют. Из истории коллективизации. 1927–1932: сб. документов / под ред. В. П. Данилова, Н. А. Ивницкого. М., 1989.

[11] Гл.: Ивницкий Н. А. Коллективизация сельского хозяйства в СССР: опыт, уроки, выводы. М., 1988; Ён жа. Коллективизация и раскулачивание (начало 30-х годов). М., 1994.

[12] Гл.: Ивницкий Н. А. Репрессивная политика советской власти в деревне (1928–1933 гг.). М., 2000.

[13] Там жа. С. 335.

[14] Гл.: Ольсевич Ю. Я. Психологические основы экономического поведения. М., 2009.

[15] Гл.: Слободской А. Л. Экономическое поведение: социально-психологическое обоснование теоретической психологии. СПб., 1994.

[16] Гл.: Грехова Н. Н., Ефимов О. В. Советы и крестьянство в 1917–1928 гг. (на материалах Нижегородской губернии). Арзамас, 2011; Давыдов Д. В. Крестьянство ТАССР в условиях НЭПа: историко-демографическая характеристика. Казань, 2010; Надькин Т. Д. Сталинская аграрная революция и крестьянство (на материалах Мордовии). Саранск, 2006.

[17] Гл.: Бяспалая М. А. Беларуская вёска ў першыя гады нэпа (1921–1923). Мінск, 1999; Яна ж. Эканамічнае і сацыякультурнае развіццё беларускай вёскі ў гады нэпа (1921–1927). Мінск, 2009.

[18] Гл.: Безнин М. А., Димони Т. М. Рабочая аристократия в сельском хозяйстве России 1930–1980-х гг. (новый подход к социальной истории российской деревни. Вологда, 2012.

[19] Гл.: Советское наследство. Отражение прошлого в социально-экономических практиках современной России: монография / под ред. Л. И. Бородкина, Х. Кесслера, А. К. Соколова. Мюнхен; Берлин, 2010.

Паступіў у рэдакцыю 04.09.13.

***Сяргей Мікалаевіч Ходзін*** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры крыніцазнаўства.

*УДК 332.21:930.2(476)*

*В. Ф. ГОЛУБЕЎ*

# АБШЧЫНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ГІСТАРЫЯГРАФІІ: ПРАБЛЕМЫ МЕТАДАЛОГІІ ВЫВУЧЭННЯ І ТЭРМІНАЛОГІІ

Рассматриваются проблемы изучения истории сельской общины в белорусской историографии. Анализируются методологические подходы к определению базисных принципов функционирования сельской общины, в первую очередь ее отношение к земле. Приводятся термины, которыми обозначалась сельская община на территории Беларуси в различные исторические периоды. Отмечена ошибочность утверждения о том, что общинное землепользование и переделы земли являются обязательными атрибутами общины. Показано, что в Беларуси после аграрной реформы XVI в. и введения индивидуального землепользования крестьян община продолжала существовать как хозяйственный и социальный институт.

***Ключевые слова:*** община; Беларусь; историография; источники; методология; сельская община; крестьянская община; поземельная община; волость; громада; собственность на землю.

We consider the problem of studying the history of rural communities in the Belarusian historiography. In the paper were analyzed the methodological approaches to the definition of the basic principles of the functioning of the rural community, especially its relationship to the land. Article contains terms that denote a rural community in Belarus in different historical periods. Noted the fallacy of the claim that communal land tenure and land redistribution were essential attributes of the community. It is shown that in Belarus after the agrarian reform of the XVI century and the introduction of individual peasants land tenure, the community continued to exist as an economic and social institution.

***Key words:*** the community; Belarus; historiography; sources; methodology; rural community; peasant community; land community; volost (rural district); gromada (peasant community of a village); ownership of land.

У гістарыяграфіі ёсць некалькі падыходаў да вызначэння тыпалогіі абшчын. Напрыклад, па тыпу вытворчасці (земляробчая, паляўнічая, жывёлагадоўчая і інш.); па канфесійнай

прыналежнасці (пратэстанцкая, каталіцкая, праваслаўная, іўдзейская і інш.); па нацыянальнай прыкмеце (турэцкая, армянская, беларуская і інш.) і г. д. Але пры такім падыходзе робіцца вызначэнне толькі часткі грамадства і тэрмін «абшчына» выступае як аналаг тэрмінаў «аб'яднанне», «група», «калектыў» і інш. Найбольш часта гісторыкі вызначаюць абшчыну як сацыяльную арганізацыю насельніцтва, грамадска-вытворчы інстытут, які меў пэўны колькасны склад, тэрыторыю, асаблівасці гаспадарчага і культурнага развіцця ў азначаны гістарычны перыяд. Вылучаюцца таксама абшчыны, што ўтварыліся для адстойвання інтарэсаў асобных груп і саслоўяў грамадства, – сельская (земляробчая) і гарадская (камунальная).

У беларускай гістарыяграфіі, як і ў папярэдняй савецкай, доўгі час панавала марксісцкая канцэпцыя абшчыны як універсальнай сацыяльнай і гаспадарчай арганізацыі, што ўзнікла пры першабытным ладзе і пастуопова мянялася, прыстасоўваючыся да розных гістарычных абставін. У грамадствах, дзе аснову эканомікі складала сельская гаспадарка, на першы план выходзіла сельская, ці сялянская абшчына. Асаблівасцю гэтай канцэпцыі было сцвярджэнне, што першаснай формай уласнасці на зямлю ў абшчыне была калектыўная, а не прыватная. Адсюль і трактоўка абшчыны як «першабытнага камунізму». Разам з тым ніхто з даследчыкаў не змог прывесці рэальных фактаў існавання калектыўнага землекарыстання на тэрыторыі Беларусі ад старажытнасці да 1861 г., калі абшчына («сельское общество») з яе кругавой парукай была ўведзена расійскімі ўладамі ў якасці гаспадарча-фіскальнай адзінкі.

Другой асаблівасцю такога падыходу быў падзел сельскіх абшчын на перадзельныя (у якіх праводзіліся перыядычныя перамеры і перыядычнае пераразмеркаванне зямлі паміж абшчыннікамі) і бесперадзельныя, дзе такія перадзелы і пераразмеркаванні не рабіліся. Наяўнасць першых поўнасцю адпавядала запазычанай К. Марксам і Ф. Энгельсам у рускіх народнікаў ідэі аб як быццам здаўна існаваўшай традыцыі ўраўняльных перадзелаў у сельскіх абшчынах, што поўнасцю ўпісвалася ў марксісцкую канцэпцыю «аграрнага камунізму». Даследчыкі ўжо адзначалі, што погляд на абшчыну як першасную форму сярэдневяковага сельскага ўладкавання, які быў «унесены ў навуку славянафільскімі і народніцкімі аўтарамі, лёг у аснову марксісцкай абшчыннай канцэпцыі…»[1]. На падставе такога падыходу памылкова лічылася, што абшчына існуе толькі там, дзе ёсць перыядычныя перадзелы зямлі. Бесперадзельная абшчына ў лепшым выпадку прызнавалася формай разлажэння абшчыны ці вызначалася як апошні перыяд яе існавання і паступовага знікнення.

Разам з тым гістарычныя крыніцы сведчаць, што пазямельная арганізацыя з'яўляецца важным, цікавым, але не абавязковым і зусім не галоўным атрыбутам абшчыны. У Беларусі ў часы феадалізму, як практычна і ва ўсёй Еўропе, існавалі абшчыны, у якіх не было перыядычных перадзелаў зямлі[2]. Выключэннем была пазямельная абшчына («сельские общества») у Расіі. Аднак гэта быў не інстытут самаарганізацыі, а форма арганізацыі сялянства, створаная землеўласнікамі і дзяржавай, калі зямлёй надзялялася не сялянства, а менавіта «сельские общества».

У беларускай гістарыяграфіі да нядаўнага часу панавала спрэчнае і нічым не абгрунтаванае сцвярджэнне аб тым, што ў другой палове XVI ст. пасля правядзення аграрнай рэформы (валочнай памеры) абшчына на тэрыторыі Беларусі перастала існаваць. Яно было заснавана на выснове, якую зрабіў М. В. Доўнар-Запольскі ў манаграфіі «Западно-русская сельская община в XVI веке», напісанай яшчэ ў канцы XIX ст.[3] Яе дапрацаваны варыянт выйшаў у якасці самастойнага нарыса пад назвай «Западно-русская волостная и сельская община» ў складзе працы «Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке», якая была прадстаўлена М. В. Доўнар-Запольскім на суісканне ступені доктара рускай гісторыі ў Кіеўскім універсітэце[4].

У пытанні пра паходжанне абшчыны і ў ацэнцы яе ролі ў гісторыі Расіі М. В. Доўнар-Запольскі падзяляў пазіцыі прадстаўнікоў расійскай так званай «дзяржаўнай школы». Прадстаўнікі гэтага кірунку расійскай гістарыяграфіі найбольш выразна сфармулявалі свае пастулаты падчас спрэчкі аб магчымых шляхах развіцця Расіі, якая разгарнулася ў 1850–1860-я гг. і пазней перарасла ў дыскусію аб ролі абшчыны ў жыцці гэтай дзяржавы. Гэтыя навукоўцы выступілі з канцэпцыяй аб «дзяржаўным паходжанні абшчыны ў Расіі». Адпаведна ёй гісторыя абшчыны як універсальнага інстытута, што існаваў ва ўсіх народаў Еўропы, мела ў Расіі тры асноўныя этапы. Першы – родавая абшчына, якая была разбурана на Русі з прыходам нарманаў. Другі – уладальніцкая абшчына, пабудаваная на адносінах паміж феадалам і сялянамі, якія свабодна пасяліліся на яго землях. Трэці – «з XV ст., калі ўзнікшая руская дзяржава ў цяглавых інтарэсах ператварыла ўладальніцкую абшчыну ў дзяржаўную, якая ўяўляла саюз людзей, аб'яднаных ужо не на прыватнай аснове, а на агульных абавязках у адносінах да дзяржавы»[5]. Гэтая тэорыя развіцця рускай абшчыны, сфармуляваная перад правядзеннем сялянскай рэформы

1861 г., была пабудавана не на навуковых фактах, а ў асноўным на пажаданнях яе аўтараў, але паслужыла своеасаблівым абгрунтаваннем магчымасці чаргова прымацаваць дзяржавай сялян да абшчыны, а саму абшчыну зрабіць амаль поўнасцю падкантрольным дзяржаве інстытутам. Менавіта гэтую, створаную ўладамі ў XIX ст. абшчыну паставіў задачу разбурыць П. А. Сталыпін, што і пачало ажыццяўляцца паводле царскага Указа ад 9 лістапада 1906 г.[6]

М. В. Доўнар-Запольскі, знаходзячыся пад уплывам расійскай «дзяржаўнай школы», лічыў і беларускую абшчыну XVI ст. не інстытутам сялянскай самаарганізацыі, а некалі раней створанай уладамі структурай і шукаў і ў беларускай абшчыне рысы пазямельнай абшчыны і не знаходзіў іх. Таму, адзначаючы рысы самастойнасці ў дзеяннях грамады ў дзяржаўных уладаннях на ўсходзе Беларусі ў XVI ст., якія выяўляліся ў першую чаргу ў змаганні сельскіх і валасных абшчын за свае правы ў асноўным пры дапамозе апеляцый да вярхоўнай улады ВКЛ, і не знайшоўшы жаданага для яго кіравання грамадою з боку дзяржавы, вучоны зрабіў памылковы вывад аб тым, што абшчына тут у XVI ст. знікала. Праявы рэальнага жыцця абшчыны – калектыўнае адстойванне сялянствам сваіх агульных інтарэсаў, дзейнасць грамады, арганізаванай «знізу» сялянамі, а не «зверху» ўладамі – даследчык ацаніў не як сілу, а як слабасць абшчынных інстытутаў у Беларусі. Ва ўводзінах і да першага і да другога выданняў вышэйзгаданай працы па гісторыі абшчыны ў XVI ст. М. В. Доўнар-Запольскі адзначаў, што ён не проста вывучае абшчыну, а даследуе «яе распадзенне»[7]. Больш за тое, сваю першую працу, прысвечаную абшчыне, ён закончыў словамі, якія паказвалі яго ўпэўненасць у тым, што абшчына да канца XVI ст. знікне: «Гэтыя рэформы (валочная памера і звязаныя з ёй мерапрыемствы. – *В. Г.*) завяршылі разлажэнне абшчыны, падрыхтаванае папярэднім жыццём. На самай справе да канца XVI ст. праявы абшчыннага жыцця заміраюць»[8].

Пазней памылковае сцвярджэнне М. В. Доўнар-Запольскага аб знікненні сялянскай абшчыны ў Беларусі ў выніку аграрнай рэформы паўтарыў У. І. Пічэта[9].

Пры адсутнасці айчынных даследаванняў аб сялянскай абшчыне ў Беларусі ў XVI–XVIII стст. для работ, прысвечаных апісанню жыцця беларускага сялянства, нярэдка было характэрна механічнае перанясенне абшчынных традыцый рускай вёскі (часцей за ўсё за час з канца XVIII ст. і пазней) на гістарычную глебу Беларусі. Яскравым прыкладам таму з'яўляецца абсалютная большасць навуковых прац, падручнікаў і дапаможнікаў пад назвай «Гісторыя Беларусі», дзе прыводзяцца звесткі пра абшчыну часоў Кіеўскай Русі і абшчыну ў Расійскай імперыі ў XIX ст., але няма матэрыялаў пра абшчыну на тэрыторыі Беларусі ў XVI–XVIII стст.

Такім чынам, асноўнымі прычынамі таго, што ў беларускай гістарыяграфіі адмаўлялася існаванне абшчыны пасля аграрнай рэформы сярэдзіны – другой паловы XVI ст. аж да 1861 г., было тое, што большасць беларускіх гісторыкаў стаялі на пазіцыях магчымасці функцыянавання абшчыны толькі як пазямельнага інстытута і некрытычных адносін да высноў аб знікненні абшчыны ў Беларусі, зробленых М. В. Доўнар-Запольскім яшчэ ў канцы XIX ст.

Разам з тым пра памылковасць абавязковага звязвання пытання аб існаванні абшчыннай арганізацыі сялянства з наяўнасцю зямельных перадзелаў пісалі некаторыя расійскія даследчыкі ўжо ў 1960–1970-я гг.[10]

Асаблівасці развіцця абшчыны залежалі як ад часу, так і ад сацыяльна-эканамічных умоў, калі яна існавала. У адрозненне ад Расіі абшчына ў Беларусі ў XVI–XVIII стст. ні ў якіх відах феадальнага землеўладання не ўводзілася як дзяржаўны ці ўласніцкі інстытут, а існавала як форма самаарганізацыі сялянства, як сацыяльная арганізацыя, створаная самім сялянствам. Неабгрунтавана атаясамліваць абшчыну, як гэта робіцца ў некаторых выпадках, як інстытут самаарганізацыі сялянства, якая існавала ў Беларусі ў XVI–XVIII стст., з пазямельнай абшчынай XIX ст., што была ўведзена ў Расіі як форма землекарыстання і адміністрацыйнага кіравання сялянствам, усе функцыі якой былі заканадаўча вызначаны і рэгламентаваны.

Для вывучэння гісторыі абшчыны на тэрыторыі Беларусі вельмі важным з'яўляецца правільнае карыстанне тэрміналогіяй, вылучэнне тэрмінаў, якімі абшчына вызначалася ў гістарычных крыніцах на тэрыторыі Беларусі, адрозненне іх ад падобных ці аднолькавых найменняў, што існавалі па-за межамі беларускіх зямель.

Тэрмін «абшчына» прыняты для абазначэння інстытута самаарганізацыі сялянства ў розных краінах. Разам з тым у розных краінах і ў розныя часы абшчына магла мець свае, мясцовыя назвы нават у межах адной і той жа тэрыторыі.

Напрыклад, у часы Старажытнарускай дзяржавы сельская абшчына ў крыніцах абазначалася тэрмінамі «весь», «погост», «вервь», «мир»[11]. У перыяд развітога феадалізму ў Расійскай дзяржаве сельская абшчына звычайна абазначалася тэрмінамі «волость», «мир», «общество», а часта таксама тэрмінамі «деревня», «люди», «вотчина», маючы на ўвазе ўсё

сельскае насельніцтва пэўнага тэрытарыяльнага ўтварэння. Нават у Палажэнні і Маніфесце аб сялянах, што выходзяць з прыгоннай залежнасці, ад 19 лютага 1861 г., якія замацоўвалі сялян за абшчынай, апошняя менавалася тэрмінамі «сельские общества» и «волости».

Наяўнасць мясцовых назваў абшчыны з'яўляецца характэрным і для іншых еўрапейскіх краін. Так, у польскіх крыніцах для абазначэння абшчыны звычайна ўжываліся тэрміны «грамада», «солтыства», а як навуковы, абагульняючы тэрмін (адпаведнік рускаму «сельская община») – «wspólnota wiejska». У Францыі і Італіі ў крыніцах абшчына называлася тэрмінам «камуна», у Іспаніі – «бегетэрыя», на Балканах – «вервь» и «задруга»[12]. На Украіне гэта былі «валасці», «грамады», на Галіччыне – «крайны». Латышская абшчына называлася «пагаст», эстонская – «вакка»[13].

У гістарычных крыніцах XVI–XVIII стст. для абазначэння сялянскай абшчыны на беларускіх землях ужываліся два тэрміны: «воласць» як тэрытарыяльная абшчына, у якую ўваходзіла некалькі вёсак, аб'яднаных па прымеце прыналежнасці да таго ці іншага землеўласніка; і «грамада» – абшчына асобнага сяла, састаўная частка валаснай абшчыны.

Назва «абшчына» беларускімі даследчыкамі традыцыйна ўжываецца як адпаведнік шырокараспаўсюджаным тэрмінам «марка» (ням.) і «община» (рус.) для абазначэння сацыяльна-эканамічнай арганізацыі сельскага насельніцтва, у якой ворыва знаходзілася ў індывідуальным уладанні асобных сем'яў, а выганы, лугі, лясныя ўгоддзі і інш. – у агульным карыстанні. Тэрміны «воласць» і «грамада» ў гістарычнай літаратуры з'яўляюцца фактычнымі адпаведнікамі тэрміна «абшчына». Тэрміны «сялянская абшчына», «валасная абшчына» ўжываюцца ў якасці раўназначных для абазначэння тэрытарыяльнай абшчыны – «валасці». Тэрміны «сельская абшчына», «грамада» прымяняюцца ў асноўным у адносінах да абшчыны канкрэтнага сельскага населенага пункта.

У выніку даследавання праблемы сялянскай абшчыны ў Беларусі ў XVI–XVIII стст. можна сцвярджаць, што ў гэты час у дзяржаўных, прыватнаўласніцкіх і царкоўных маёнтках на тэрыторыі Беларусі дзейнічала абшчына як форма самаарганізацыі сялянства, адносна самастойны сацыяльна-гаспадарчы інстытут, якому належалі значныя адміністрацыйныя, гаспадарчыя, павіннасна-фіскальныя, судовыя і іншыя паўнамоцтвы. Гэта была бесперадзельная сялянская абшчына, у якой не праводзіліся перадзелы зямлі паміж абшчыннікамі. Разам з тым абшчына магла мець у сумесным уладанні ці карыстанні не толькі пашы, сенакосы, бортныя ўгоддзі, лясныя і рыбныя ловы, але і млыны, корчмы, васкабойні, рудні і іншую маёмасць, у некаторых выпадках нават ворыўную зямлю з правам здзяйсняць аперацыі куплі-продажу і інш.

У буйных дзяржаўных, прыватных і царкоўных уладаннях існавала двухузроўневая сістэма абшчыннай арганізацыі: тэрытарыяльная абшчына (воласць) складалася з некалькіх сельскіх абшчын. У невялікіх маёнтках, што складаліся з адной-дзвюх вёсак, такога падзелу не было. З сярэдзіны XVII ст. сельская абшчына ў крыніцах стала называцца «грамадой», у адносінах да тэрытарыяльнай абшчыны працягваў выкарыстоўвацца тэрмін «воласць». Валасная і сельская абшчыны былі адначасова і адзінкамі самаарганізацыі сялянства і аб'ектамі павіннаснага і падатковага абкладання. Воласць у беларускай вёсцы XVI–XVIII стст. была не пазямельнай структурай, а сацыяльнай і павіннасна-падатковай арганізацыяй.

Сялянская абшчына працягвала дзейнічаць ва ўсіх відах феадальнага землеўладання на тэрыторыі Беларусі і пасля ажыццяўлення аграрнай рэформы сярэдзіны XVI ст., бо была неабходна сялянству як інстытут яго самаарганізацыі, а феадалам – у якасці калектыўнага павіннаснага і падатковага плацельшчыка.

Для сялянскай абшчыны на тэрыторыі Беларусі ў XVI–XVIII стст. былі характэрныя па меншай меры дзве базавыя асновы для яе функцыянавання і дзейнасці, якія на першы погляд могуць здавацца ўзаемавыключальнымі. З аднаго боку, абшчына ў многіх выпадках, асабліва пасля правядзення валочнай памеры, вымушана была стаць часткай самой сістэмы феадальнай эксплуатацыі, кіравання і кантролю. З другога боку, нават вымушаная пайсці на такі кантакт з землеўласнікам, абшчына захавала шматлікія элементы свайго традыцыйнага жыцця, заснаванага на даўнім звычаёвым праве. Да такіх элементаў можна аднесці карыстанне агульнымі ўгоддзямі, наяўнасць пэўных элементаў абшчыннага судаводства, забеспячэнне правіл і норм паводзін у штодзённым жыцці і інш.[14]

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС

[1] Інкін В. Ф. Сільське суспільство Галицького Прикарпаття у XVI–XVIII століттях: історичні нариси. Львів, 2004. С. 87.

[2] Гл.: Голубеў В. Ф. Сельская абшчына ў Беларусі XVI–XVIII стст. Мінск, 2008.

[3] Гл.: Довнар-Запольский М. В. Западно-Русская сельская община в XVI веке. СПб., 1897.

[4] Гл.: Довнар-Запольский М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905. VI, 307, VIII.

[5] Лаптин П. Ф. Община в русской историографии последней трети XIX – начала XX в. Киев, 1971. С. 10.

[6] Гл.: Гісторыя Беларусі. Ад старажытных часоў па 2010 г.: вучэб. дапам. / Я. К. Новік, І. Л. Качалаў, Н. Я. Новік; пад рэд. Я. К. Новіка. Мінск, 2011. С. 244.

[7] Гл.: Довнар-Запольский М. В. Западно-Русская сельская община в XVI веке. С. 4; Довнар-Запольский М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке… С. V.

[8] Довнар-Запольский М. В. Западно-Русская сельская община в XVI веке… С. 55–56.

[9] Гл.: Пичета В. И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. М., 1958. С. 543; Ён жа. Основные моменты исторического развития Западной Украины и Западной Белоруссии. М., 1940. С. 28; Ён жа. [Рецензия] // Вопросы истории. 1946. № 10. С. 121–123. Рец. на: Учен. зап. Ярославского гос. пед. ин-та. Вып. VII (XVII). История. Ярославль, 1945. С. 122.

[10] Гл.: Шапиро А. Л. Проблемы генезиса и характера русской общины в свете новых изысканий советских историков // Ежегодник по аграрной истории Европейского Севера СССР. Вологда, 1976. Вып. VI. С. 36–46.

[11] Гл.: История крестьянства в Европе: в 3 т. Эпоха феодализма. М., 1985–1986. Т. 1: Формирование феодально-зависимого крестьянства. 1985. С. 324–326.

[12] Там же. С. 112, 144, 163, 238, 351.

[13] Гл.: История крестьянства СССР с древнейших времен до Великой Октябрьской социалистической революции: в 5 т. М., 1987–1996. Т. 2: Крестьянство в периоды раннего и развитого феодализма. 1990. С. 171, 184–185.

[14] Гл.: Голубеў В. Ф. Сельская абшчына ў Беларусі XVI–XVIII стст. … С. 289–290.

Паступіў у рэдакцыю 23.09.13.

***Валянцін Фёдаравіч Голубеў*** – доктар гістарычных навук, дацэнт, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі.

*УДК 324(569.3:569.4)(091)«19/20»*

*САЛЕХ МАЛЕК МОХАМАД*

## ЛИВАНО-ИЗРАИЛЬСКИЕ ОТНОШЕНИЯ В КОНТЕКСТЕ АРАБО-ИЗРАИЛЬСКОГО ПРОТИВОСТОЯНИЯ В 1990-е – НАЧАЛЕ 2000-х гг.

Посвящена исследованию ливано-израильских отношений в контексте арабо-израильского противостояния. Отмечается, что первоначально сложный характер ливано-израильских отношений в значительной мере определялся «палестинским фактором». В 1990-е гг. развитие ливано-израильских отношений находилось в тесной связи с военно-политической деятельностью шиитского движения «Хезболла». Поэтому особое внимание уделяется движению «Хезболла» и его роли в развитии ливано-израильских отношений. Подробно освещены ход военных действий, результаты и особенности ливано-израильской войны 2006 г.

***Ключевые слова:*** ближневосточное урегулирование; ливано-израильские отношения; военно-политическое движение «Хезболла»; вооруженные конфликты; ливано-израильская война.

The article investigates the Lebanese-Israeli relations in the context of the Arab-Israeli confrontation. It notices that originally complicated disposition of the Lebanese-Israeli relations are largely characterized by «Palestinian factor». The development of the Lebanese-Israeli relations in the 1990s was closely linked to the military and political activities of the Shiite movement «Hezbollah». So, the article pays particular attention to the «Hezbollah» movement and its role in the development of the Lebanese-Israeli relations. The course of military operations and the results and features of the Lebanese-Israeli War of 2006 are illustrated in details.

***Key words:*** Middle East peace process; the Lebanese-Israeli relations; the military-political movement «Hezbollah»; armed conflict; the Lebanese-Israeli War.

Мирное урегулирование арабо-израильского конфликта является одной из важных проблем международных отношений на современном этапе, в скорейшем решении которой заинтересованы как страны ближневосточного региона, так и ведущие мировые державы. Одним из непосредственных участников ближневосточного урегулирования является Ливан. Ливано-израильские отношения – это своеобразный индикатор современного состояния процесса ближневосточного урегулирования, от них во многом зависит будущее арабо-израильских отношений в целом.

Среди публикаций ливанских авторов, посвященных ливано-израильским отношениям, особо следует отметить работу Али Мухиэддина «Хезболла»[1], в которой рассматривается развитие ливано-израильских отношений сквозь призму деятельности ливанского военно-политического объединения «Хезболла».

Проблемами ближневосточного урегулирования занимаются также российские исследователи, среди которых можно выделить таких журналистов-международников, как В. Ахмедов, В. Гусейнов, Н. Савкин, С. Демиденко. Большое место арабо-израильским отношениям отведено в работе известного российского политика и востоковеда Е. М. Примакова[2]. Богатый фактический материал, посвященный ливано-израильским отношениям, представлен в работе А. Д. Цыганка[3].